Буча, А. І. Беларускае грамадска-палітычнае жыццё ў Чэхаславакіі ад часу прыезду ўрада БНР у Прагу да правядзення Берлінскай канферэнцыі / А. І. Буча // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 152 – 160

**А. І. Буча**

# БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў ЧЭХАСЛАВАКІІ АД ЧАСУ ПРЫЕЗДУ ЎРАДА БНР У ПРАГУ ДА ПРАВЯДЗЕННЯ БЕРЛІНСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ *

Уперыяд з 1921 па 1923 г. абывалася фармаванне беларускага асяродка ў Чэхаславакіі. Дзякуючы падтрымцы (выдзяленне беларускіх стыпендый), дазволенай чэхаславацкімі ўладамі, у межах правядзення «Рускай акцыі», пачынаючы з 1921 г. быў наладжаны прыезд беларускай моладзі (у пераважнай большасці з Заходняй Беларусі) на навучанне ў Чэхаславакію. Ужо ў канцы 1923 г. дзве найбольшыя беларускія студэнцкія арганізацыі (Аб'яднанне беларускага паступовага студэнцтва (АБПС) і Студэнцкая секцыя пры Беларускай Грамадзе) згуртавалі ў сваіх шэрагах 110 беларусаў [26, с. 63]. Апрача таго, значная частка беларускай моладзі (па некаторых звестках, каля 400 чалавек) знаходзілася на ўтрыманні расійскіх эмігранцкіх арганізацый [8, с. 1493]. Літаральна за некалькі гадоў у Чэхаславацкай рэспубліцы (ЧСР) склаліся моцныя структуры дыяспары (утварыліся зямляцкая арганізацыя, прафесійныя і грамадска-палітычныя аб'яднанні, было наладжана самастойнае культурнае жыццё, публікацыйная дзейнасць). Высокі адукацыйны ўзровень прадстаўнікоў дыяспары, больш за 90 % якой складалі студэнты чэхаславацкіх вышэйшых школ, а таксама спрыяльныя ўмовы існавання (фактычна неўмяшальніцтва ва ўнутранае жыццё эмігрантаў з чэхаславацкага боку, дазвол на стварэнне рознага кшталту аб'яднанняў) прадвызначылі інтэнсіўнасць грамадска-палітычных працэсаў у беларускім асяродку ў Чэхаславакіі.

**Прыезд «міністраў» і актывізацыя грамадска-палітычнага жыцця дыяспары.** У канцы 1923 г. беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі была расколата на дзве вялікія групы (левую і правую). Гэты ідэалагічны падзел быў замацаваны яшчэ на нечарговым агульным сходзе Беларускай Грамады ў траўні 1923 г., калі ў выніку галасавання ў прэзідыум арганізацыі на парытэтнай аснове былі выбраны па два прадстаўнікі ад АБПС (Т. Грыб і М. Верамей) і Студэнцкай секцыі пры Беларускай Грамадзе (П. Астапкевіч і Х. Клаўсуць), а старшынёй перавыбраны М. Вяршынін [25, с. 15]. Фармальна беларусы былі аб'яднаныя ў Беларускай Грамадзе, але ж у сапраўднасці ўся іх грамадска-палітычная актыўнасць засяроджвалася ва ўдзеле ў дзейнасці адпаведнай «партыйнай» арганізацыі (АБПС, Беларускі сялянскі саюз у Празе (БСС)).

У пачатку лістапада 1923 г. у Прагу з Коўны на сталае жыхарства як прыватныя асобы пераехалі кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) (П. Крачэўскі, В. Захарка, Л. Заяц, У. Пракулевіч). Міністэрства замежных спраў (МЗС) ЧСР не пагадзілася на пераезд рады БНР у Прагу як палітычнага прадстаўніка беларускага народа, бо не мела зацікаўленасці ў пагаршэнні і да таго складаных адносін з Варшавай. Адразу пасля прыезду ў Прагу група «міністраў» выпрацавала план па ўзначальванні беларускай дыяспары. Першапачаткова была заключана дамоўленасць з М. Вяршыніным, які да гэтага выконваў функцыі прадстаўніка БНР у ЧСР і старшыні Беларускай Грамады, аб стварэнні новай арганізацыі. Першы сход ініцыятыўнай групы, у якую ўваходзілі М. Вяршынін, П. Крачэўскі, В. Захарка, А. Цвікевіч,

---

* Статья выполнена в рамках Государственной программы научных исследований на 2011—2015 гг. «Гуманитарные науки как фактор развития белорусского общества и государственной идеологии» (ГПНИ «История, культура, общество, государство»).

**Буча Андрей Иванович** — аспирант кафедры истории южных и западных славян Белорусского государственного университета

Л. Заяц, У. Пракулевіч, адбыўся 6 лістапада 1923 г. На ім было прынята рашэнне аб выпрацоўцы статута будучай арганізацыі. Неўзабаве, 8 лютага 1924 г., Міністэрствам унутраных спраў (МУС) ЧСР быў зацверджаны статут Беларускай Рады ў Празе [6, č. j. 024767]. У адпаведнасці з апошнім, Рада з'яўлялася непалітычным, культурна-грамадскім аб'яднаннем, якое абараняла інтарэсы беларусаў, пражываючых у Чэхаславакіі. Згодна з статутам Беларуская Рада ў Празе мела аналагічныя мэты і праводзіла сваю дзейнасць у такіх жа самых напрамках, што і дзеючая з вясны 1922 г. Беларуская Грамада.

Па сутнасці, Беларуская Рада ў Празе замяшчала Беларускую Грамаду. Прыпыненне дзейнасці апошняй было адным з крокаў лідараў БНР па захопе кіраўніцтва беларускай дыяспарай у Чэхаславакіі. Так, на агульным гадавым сходзе Беларускай Грамады, які адбыўся ў снежні 1923 г., старшынёй быў абраны Л. Заяц, а яго наменнікам М. Вяршынін. Праз пэўны час новаабранае кіраўніцтва заявіла аб складванні з сябе абавязкаў, матывуючы гэта расколам арганізацыі і немагчымасцю прадуктыўнай працы [8, с. 1493]. Яшчэ перад абраннем ў прэзідыум Беларускай Грамады Л. Заяц і М. Вяршынін ініцыявалі стварэнне Беларускай Рады ў Празе.

Да верасня 1924 г. Беларуская Рада ў Празе аб'ядноўвала вакол сябе толькі прадстаўнікоў урада і рады БНР. Праца арганізацыі вялася ў двух накірунках: 1) МЗС ЧСР (стварэнне іміджу Беларускай Рады як рэпрэзентанта інтарэсаў беларусаў); 2) дыяспара (заваяванне аўтарытэту сярод беларускага студэнцтва з мэтай пазнейшага прыцягнення ў свае шэрагі). Трэба адзначыць, што пэўныя поспехі Беларускай Радай былі дасягнуты. Так, у канцы 1923 г. яна атрымала пазыку ў прыватных асоб (у прафесара Карлава ўніверсітэта, расійскага літаратуразнаўцы беларускага паходжання Я. А. Ляцкага) на суму 10 324 чэшскіх крон (пасля МЗС ЧСР выдзеліла грошы на выплату дадзенай пазыкі). З гэтай сумы амаль палова была выдаткавана на дапамогу беларускім студэнтам, якія не былі залічаны на стыпендыі [6, č. j. 219008]. Акцыя дапамогі была прыхільна сустрэта студэнтамі і значна ўмацавала іх давер да новапаўсталай арганізацыі. На першым агульным гадавым сходзе Беларускай Рады ў Празе (прысутнічала 22 сябры), які адбыўся 30 верасня 1924 г., у прэзідыум былі выбраны Л. Заяц (старшыня), М. Вяршынін, В. Захарка, Я. Дыліс і У. Жылка [2]. Вынікі галасавання сведчаць пра тое, што арганізацыя менш чым за год дзейнасці атрымала падтрымку з боку часткі студэнцкай грамады, інтарэсы якой у прэзідыуме абаранялі Я. Дыліс і У. Жылка.

Прэзідыум Л. Зайца з вялікім імпэтам прыняўся за працу. У кастрычніку 1924 г. было падазена прашэнне ў МЗС ЧСР з просьбай аб зацвярджэнні бюджэту Рады на дзейнасць у наступным годзе. Прадстаўнікі Рады падкрэслівалі, што «беларуская эміграцыя, якая з 1922 г. павялічылася ў 10 разоў, імкнецца да тых магчымасцей культурнай працы, якую мелі і маюць у ЧСР усе іншыя нацыянальнасці былой Расійскай імперыі» [6, и. j. 193704]. У тым жа месяцы ад імя Беларускай Рады ў Празе была выдадзена абвестка аб рэгістрацыі беларусаў у ЧСР. У дакуменце адзначалася, што «Рада бярэ на сябе абарону інтарэсаў беларусаў, пражываючых у межах ЧСР» [23, арк. 3]. 30 снежня 1924 г. па ініцыятыве Беларускай Рады былі ўрачыста адзначаны 40-я ўгодкі смерці В. Дуніна-Марцінкевіча, на якіх прысутнічала 85 беларусаў [3, и. 830]. Шэраг культурна-палітычных мерапрыемстваў, праведзеных Беларускай Радай у другой палове 1924 г., значна павысіў аўтарытэт гэтай структуры сярод дыяспары.

**Беларуская пражская палітычная палітра ўзору 1924 г.** Пераезд «міністраў» у Прагу прыўнёс новыя імпульсы, скалыхнуў жыццё беларускай дыяспары. Але кансалідацыі беларусаў вакол новай арганізацыі на працягу 1924 г. не адбылося. Беларуская Рада ў Празе стала адным са шматлікіх існуючых беларускіх аб'яднанняў у Чэхаславакіі.

Вельмі негатыўную пазіцыю ў адносінах да групы П. Крачэўскага займалі беларускія эсэры на чале з Т. Грыбам. Так, 8 снежня 1923 г. пражскія эсэры (Т. Грыб, Я. Мамонька, П. Бадунова) ад імя ЦК БПС-Р выдалі «Паведамленне», якое было разаслана ў МЗС ЧСР і расійскія ды ўкраінскія эміграцкія арганізацыі. У выдадзеным дакуменце Беларуская Рада

характарызавалася як «новае авантурыстычнае прадпрыемства, новая спроба спекуляцыі на ідэі беларускага вызваленчага руху і яго прадстаўніцтва за мяжой, групы, палітычна збанкрутаванай і дэзарыентаванай, інтэлігенцыі» [22, арк. 70 адв. ]. Такі востры выпад эсэраў тлумачыўся тым, што Беларуская Рада імкнулася выконваць не толькі функцыі замежнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху, але і спрабавала манапалізаваць права на рэпрэзентацыю беларускай незалежнай сацыялістычнай думкі ў асяроддзі шматнацыянальнай эміграцыі Чэхаславакіі. Менавіта беларускія эсэры на чале з Т. Грыбам, згуртаваныя ў Замежным бюро ЦК БПС-Р (створана ў 1923 г. у Празе), прэтэндавалі на выкананне гэтай ролі, цесна супрацоўнічаючы з украінскімі (група М. Шапавала) і рускімі (група В. Чарнова) эсэрамі. Больш таго, разам з украінцамі беларускія эсэры на чале з Т. Грыбам плённа працавалі ў супольнай арганізацыі пад назвай «Вольная Грамада», мэтай якой з'яўлялася «перабудова ўсяго грамадзянства на закладах рэвалюцыйнага сацыялізму» [26, с. 61].

Апрача Замежнага бюро ЦК БПС-Р сталымі палітычнымі апанентамі Беларускай Рады былі прадстаўнікі БСС у Празе на чале з Я. Станкевічам. Пасля сакавіцкага расколу 1923 г. беларускага студэнцтва (стварэнне АБПС) менавіта пад непасрэдным кіраўніцтвам «сялян» знаходзілася Студэнцкая секцыя пры Беларускай Грамадзе. Па ініцыятыве Сялянскага саюза ў пачатку 1923 г. была заснавана і да канца 1924 г. паспяхова дзейнічала патрыятычна-спартыўная арганізацыя «Беларускі Сакол», якая імкнулася «падняць на найвышэйшую ступень у кожнага з сяброў сваіх яго фізічныя і маральныя здольнасці», «гатавала патрыётаў, якія ў кожную часіну гатовы выступіць на абарону Бацькаўшчыны і беларускага народу» [17, с. 35]. У складзе БСС знаходзілася невялікая, але вельмі дзейсная група прыхільнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі на чале з А. Клімовічам. Па іх ініцыятыве «беларускай каталіцкай эміграцыяй» 4 ліпеня 1924 г. была прынята рэзалюцыя супраць паланізацыйнай палітыкі, якую ажыццяўляў каталіцкі касцёл, у адносінах да беларускіх каталікоў з усходняй Беларусі, аб'яднаных у Магілёўскую мітраполію [19, с. 128]. Ліберальна-дэмакратычная група беларускай пражскай калоніі адмаўляла наяўнасць класавых супярэчнасцей у беларускім грамадстве, прымала толькі парламенцкі шлях барацьбы за права беларускай меншасці ў Польшчы, катэгарычна негатыўна ставілася да вопыту савецкага будавання ва ўсходняй Беларусі. БСС у Празе, у значнай меры, дзякуючы асобе свайго лідара і ідэолага Я. Станкевіча, з'яўляўся адным з наймацнейшых згуртаванняў беларусаў Чэхаславакіі.

З рэзкай крытыкай ідэалогіі БСС у Празе выступалі беларускія студэнты, якія прытрымліваліся левых (па-іншаму, прагрэсіўных ці паступовых) поглядаў і былі згуртаваны ў АБПС. Аб'яднанне ўяўляла сабой не цэласную і маналітную структуру (як БСС у Празе), а хутчэй з'яўлялася дэмакратычнай платформай левых сіл, у якой аб'ядноўваліся марксісты, эсэры, нацыянал-камуністы. Большасць сяброў арганізацыі прытрымлівался прынцыпу разумення беларускага адраджэння, «як выніка выступу на арэну грамадскага жыцця беларускіх сялян і работнікаў на шляху да вызвалення іх ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання», а «найвышэйшым ідэалам свядомых работнікаў і сялян прызнавалася незалежнасць Беларусі» [15. с. 17]. Галоўныя разыходжанні паміж дзеячамі Аб'яднання тычыліся таго, хто павінен узначаліць змаганне за незалежнасць, вакол каго трэба гуртавацца. Значная частка сяброў АБПС (В. Русак, В. Грышкевіч і інш.) лічыла, што такую ролю павінны выканаць структуры БНР. Праціўнікамі адзначанай думкі была частка эсэраў (Т. Грыб, Я. Мамонька, П. Бадунова, М. Чарнецкі і інш.), якія адмаўлялі законнасць урада А. Цвікевіча, а таксама савецкі шлях пабудовы беларускай дзяржаўнасці. Значная частка сяброў АБПС (І. Дварчанін, У. Жылка) прыхільна ставіліся да культурных дасягненняў у Савецкай Беларусі. Але позіркі ў бок Мінска былі ў другой палове 1923 г. — першай палове 1924 г. яшчэ вельмі асцярожнымі. Так, напрыклад, рэдактар перыядычнага органа АБПС «Перавясла» У. Жылка ў жніўні 1923 г. не бачыў яшчэ Мінск цэнтрам па аб'яднанні беларускіх зямель, супрацьпастаўляючы яму Вільню [20, с. 24.]. Група марксістаў (П. Цветкаў, К. Бабровіч), якая таксама ўваходзіла ў склад АБПС, галоўную

ўвагу надавала сацыяльнаму вызваленню беларускага народа, падкрэсліваючы кіруючую ролю пралетарыята ў гэтым працэсе, разам з тым адмаўляючы нацыянальныя патрабаванні беларусаў. Дэкляраванне нігілізму ў нацыянальным пытанні не спрыяла росту папулярнасці марксістаў сярод нацыянальна-свядомай беларускай студэнцкай грамады.

Асобная ніша ў палітычнай прасторы беларускай дыяспары належала Студэнцкай секцыі пры Беларускай Грамадзе (Думкі паступовай), створанай у пачатку студзеня 1924 г. пасля выбараў прэзідыума Студэнцкай секцыі. У дадзенае згуртаванне ўваходзіла моладзь з левымі, дэмакратычнымі поглядамі, ідэалагічна вельмі набліжаная да АБПС (знаходзілася пад уплывам лідараў АБПС, асабліва І. Дварчаніна). На чале дадзенай «паступовай» групы стаялі К. Буська (старшыня) і М. Ільяшэвіч (нам. старшыні). Невядома, да якога часу праіснавала Студэнцкая секцыя (Думкі паступовай). Згодна з ускоснымі данымі, цалкам магчыма, што ў другой палове 1924 г. гэта суполка трансфармавалася ў апалітычнае асветніцкае аб'яднанне «Незалежнасць» (у якое таксама ўвайшла значная частка сяброў АБПС) ці ў «Грамаду» (верагодна, што пасля распаду «Незалежнасці» была створана «Грамада»), якая пасля стварэння Саюза студэнтаў-грамадзян БССР знаходзілася ў арбіце ўплываў апошняга [11; 27, с. 30].

Лепшай характарыстыкай агульнай атмасферы, якая панавала ў асяроддзі дыяспары ў 1924 г., з'яўляюцца словы беларускага студэнта, пазней аўтара рамана «Роджаныя пад Сатурнам», прысвечанага жыццю беларусаў у Чэхаславакіі 1920-х гг., В. Вальтара: «Ёсць пэўны кангламерат, мазаіка людзёў, звязаных толькі прыналежнасцю да аднаго беларускага будынку... Гэтыя ўзгрупаванні (АБПС і Студэнцкая секцыя. — *А. Б.*) плывуць сваім асобным жыццём, ніколі не сутыкаюцца на паседжаннях (за выняткам выключных мамэнтаў), так як быццам — дзве Палаты парламенту» [8, с. 1486].

**Спроба аб'яднання беларускага студэнцтва ў Чэхаславакіі.** Згуртаванне ідэалагічна неаднароднай беларускай студэнцкай калоніі магчыма было ажыццявіць толькі на грунце апалітычнасці будучай арганізацыі. Сама ідэя стварэння агульнага саюза лунала ў паветры ад часу прыбыцця першых груп беларусаў у Прагу. Але яе ўвасабленню перашкаджалі цяжкія, напружаныя міжасабовыя і міжарганізацыйныя стасункі, якія панавалі ў грамадзе беларусаў у 1921—1924 гг. Так, яшчэ ў лістападзе 1922 г. Я. Станкевіч у лісце В. Ластоўскаму пісаў аб неабходнасці стварэння цэнтральнага беларускага студэнцкага саюза, але выказваў сумнеў у тым, ці прыездзе дастатковая колькасць беларусаў у Прагу [8, с. 1357]. У часопісе «Перавясла», выдадзеным у канцы 1923 г., была змешчана адозва «Да ўсіх беларускіх студэнцкіх арганізацый», у якой падкрэслівалася неабходнасць неадкладнага склікання ў магчыма найбліжэйшы тэрмін «Беларускага ўсестудэнцкага з'езда» [13, с. 62]. Але толькі ў сярэдзіне 1924 г. дайшло, уласна, да пачатку працы па скліканні агульнастудэнцкай беларускай канферэнцыі. На гэта, па нашаму меркаванню, паўплывалі наступныя прычыны: 1) разуменне студэнцкімі лідарамі бесперспектыўнасці далейшага процівaборства, а таксама нараджэнне бачання Прагі як цэнтра, які будзе займацца абаронай беларускіх студэнцкіх інтарэсаў на міжнароднай арэне; 2) прыгатаваўчыя крокі па стварэнні арганізацыі студэнтаў маларосаў і беларусаў «Адзінства рускай культуры» і рэальная пагроза пераходу беларускіх студэнтаў пад дах будучай арганізацыі; 3) стварэнне цэнтральных саюзаў рускага і ўкраінскага студэнцтва і іх уступленне ў Міжнародную канфедэрацыю студэнтаў (С. І. Е.).

Ініцыятыва па стварэнні агульнастудэнцкай арганізацыі паходзіла ад АБПС, сябра якой В. Грышкевіч узначаліў арганізацыйны камітэт. Таксама ўдзел у падрыхтоўчай працы да канферэнцыі прынялі прадстаўнікі Студэнцкай Секцыі (фактычна БСС у Празе) і Студэнцкай секцыі (Думкі паступовай). Беларускі студэнцкі саюз у Вільні даручыў рэпрэзентавaць свае інтарэсы на канферэнцыі пражанам — Я. Станкевічу, В. Грышкевічу, А. Клімовічу, М. Ільяшэвічу [9, арк. 22]. Дыскусіі вакол выпрацоўкі агульных прынцыпаў статута новай арганізацыі, якія адбыліся на канферэнцыі (праходзіла 20 жніўня 1924 г.), адлюстравалі, з аднаго боку, кансалідацыю пэўнай часткі студэнцтва вакол ідэі прафесійнага саюза, а з другога — па-

цвердзілі канчатковае адасабленне марксісцкай групы і распачаткаванне арганізавання прасавецкага студэнцтва. У прыватнасці, на канферэнцыі асноўныя спрэчкі адбыліся паміж К. Бабровічам і В. Грышкевічам. Першы даказваў, што існаванне апалітычнай прафесійнай арганізацыі немагчыма, што створанае аб'яднанне ўсё роўна будзе займацца палітыкай, а таксама, заявіўшы, што выступае ад імя паступовага і савецкі настроенага студэнцтва, быў абураны тым, што ў статуце не напісана «выразнае адносіны да Польшчы і Савецкай Беларусі». У адказ на заўвагі К. Бабровіча выступіў В. Грышкевіч. Ён паведаміў прысутным, што менавіта з-за «адсутнасці прафесійнага саюзу мы і церпім на міжнародным полі і адчуваем гэта самі на сабе». В. Грышкевіч таксама адзначыў, што «палітычная арганізацыя, аб'яднаючая ўсё беларускае студэнцтва, немагчыма, паколькі немагчыма адзіная ідэалогія» [9, арк. 35—37]. У выніку патрабаванні К. Бабровіча былі адкінуты дэлегатамі і быў задаволены праект В. Грышкевіча. Напрыканцы пасяджэння дэлегаты прынялі рэзалюцыю-пратэст супраць уціску і здзеку над беларускім насельніцтвам у Польшчы.

У прэзідыум Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый Заходняй Беларусі і эміграцыі (АБСА), які ўзначаліў В. Грышкевіч, увайшлі выключна прадстаўнікі сацыялістычнай групы студэнцтва. Першы варыянт статута АБСА, пададзены пасля канферэнцыі на зацвярджэнне ў МУС ЧСР, падпісалі В. Грышкевіч, М. Каберац і І. Дварчанін [7, и. 149141]. Трэба разумець, што подпіс І. Дварчаніна пад статутам сведчыў пра напружаныя адносіны апошняга з марксістамі, а таксама пра агульнасць поглядаў студэнтаў (і левых, і правых, незалежна ад стаўлення да пытання дзяржаўнасці Беларусі) на важнасць акадэмічнай беларускай арганізацыі, здольнай да абароны правоў беларускага студэнцтва (у першую чаргу з Заходняй Беларусі) на міжнароднай арэне. Апошняе пацвярджае і тое, што дабівацца права ўключэння АБСА ў міжнародную студэнцкую супольнасць на з'езд С. І. Е. у Варшаву адправіўся У. Жылка, які ў хуткім часе ўключыўся ў працу па падрыхтоўцы да выдання часопіса прасавецкай моладзі «Прамень». Стварэнне АБСА ў жніўні 1924 г. трэба разглядаць як праяўленне цэнтраімклівых тэндэнцый у жыцці дыяспары, спробу наладжвання дыялога паміж неаднароднай беларускай студэнцкай масай, пераход на іншы, адназначна вышэйшы ўзровень узаемаадносін. Але ж зыход з канферэнцыі лідара марксісцкай групы Я. Бабровіча, намінальны ўдзел у стварэнні новага аб'яднання «сялян» Я. Станкевіча, крытычная ўнутраная сітуацыя ў АБПС (у арганізацыі наспявалі невырашальныя супярэчнасці па лініі — эсэры Т. Грыба — марксісты — «незалежнікі») не спрыялі наладжванню паспяховай дзейнасці Аб'яднання адразу пасля ўсебеларускай студэнцкай канферэнцыі. Акрамя таго, няўдача з зацвярджэннем статута АБСА чэхаславацкімі ўладамі, фіяска беларускіх спадзяванняў на варшаўскім з'ездзе С. І. Е., актывізацыя працы КП(б)Б «па вярбоўцы студэнтаў — выхадцаў з Віленшчыны ў арбіту ўплыву» часова адсунулі ўвасабленне дэклараваных мэтаў цэнтральнага беларускага студэнцкага саюза на ўзбочыну грамадска-палітычнага жыцця дыяспары.

**Вонкавыя ўплывы беларускага нацыянальнага руху на ўнутранае жыццё беларускага асяродка ў Чэхаславакіі.** Беларускія студэнты, якія навучаліся ў Чэхаславакіі, знаходзіліся пад пільным наглядам як з боку прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху, так і кіраўніцтва Савецкай Беларусі ад самага пачатку арганізавання структур беларускай дыяспары ў гэтай славянскай краіне. Віленскія беларускія арганізацыі і ўрад БНР, прымаючы непасрэдны ўдзел у адборы і накіраванні беларускай моладзі на навучанне ў ЧСР, спадзяваліся ў будучым атрымаць у іх асобе не толькі прафесіяналаў, якія прынясуць карысць для народнай гаспадаркі Беларусі, але, што вельмі важна, прыхільнікаў адпаведнай палітычнай ідэалогіі, якія ў перспектыве папоўняць партыйныя шэрагі, дзе асабліва востра адчуваўся недахоп у высокаадукаваных кадрах.

Ужо пасля верасnёўскай Беларускай нацыянальна-палітычнай нарады 1921 г. у Празе застаўся і амаль цэлы год знаходзіўся старшыня рады БНР П. Крачэўскі, які, акрамя іншага, удзельнічаў у арганізаванні беларусаў у ЧСР. В. Ластоўскі фінансаваў розныя ідэалагічныя плыні дыяспары — Беларускі сялянскі саюз у Празе, Беларускі Сакол, загранічную групу

БПС-Р. Найбольш шчыльныя кантакты ковенскі беларускі цэнтр В. Ластоўскага падтрымліваў з лідарам правых Я. Станкевічам, праз якога ўплываў на ўнутранае жыццё беларускай калоніі. Віленскія беларусы таксама не былі ў баку ад пражскіх падзей. Б. Тарашкевіч наведваў Прагу ў 1921, 1923, 1924, 1925 гг. Падчас апошняга візіту, ужо з'яўляючыся кіраўніком Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), Б. Тарашкевіч прыбыў у Прагу, акрамя іншага, і з мэтай вярбоўкі беларускіх студэнтаў у новую арганізацыю [4, с. 20; 8, с. 1544]. Неўзабаве, пасля заканчэння вучобы, адзін з найбольш дзейсных пражскіх беларусаў І. Дварчанін, вярнуўшыся ў Заходнюю Беларусь, уключыўся ў працу Грамады. Акрамя таго, дасведчаны ў справах жыцця пражскай беларускай калоніі быў А. Луцкевіч, які вёў сталую перапіску з У. Жылкам, для якога былы прэм'ер-міністр БНР з'яўляўся сапраўдным аўтарытэтам. Ад 1921 г. дзейнасць беларускай калоніі ў ЧСР знаходзілася ў полі зроку адпаведных структур у БССР, якія праз П. Цветкава атрымлівалі ўсю неабходную інфармацыю пра становішча дыяспары, а таксама прапагандавалі погляды, грунтаваныя на класавых падыходах і ідэі сусветнай бальшавіцкай рэвалюцыі ў асяроддзі беларускіх студэнтаў.

Прыкладна з 1924 г. вонкавая зацікаўленасць у павелічэнні сваіх уплываў на дыяспару актывізуецца, галоўным чынам дзякуючы сканцэнтраванню ў Чэхаславакіі вялікай колькасці беларускай моладзі. Пераехаўшае ў Прагу ў канцы 1923 г. кіраўніцтва БНР на чале з П. Крачэўскім імкнулася, праз стварэнне Беларускай Рады ў Празе, аб'яднаць беларускую калонію ў ЧСР, надаць новыя імпульсы змаганню за ідэалы БНР, пераўтварыць Прагу ў галоўны эміграцыйны цэнтр. У сваю чаргу, віленскія беларускія дзеячы, а таксама ковенскія беларусы на чале з В. Ластоўскім і К. Дуж-Душэўскім мелі цалкам адрозны ад групы П. Крачэўскага погляд на ролю і значэнне беларускай калоніі ў Празе. І Вільня, і Коўна бачылі Прагу перш за ўсё як пляцоўку па падрыхтоўцы кадраў для нацыянальнай працы ў Заходняй Беларусі, а таксама цэнтр па інфармаванні міжнароднай супольнасці аб становішчы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У дакладзе К. Дуж-Душэўскага, па выніках наведвання Прагі ў кастрычніку 1924 г., змяшчаліся цікавыя даныя наконт адносін беларускай Вільні да «вядзення беларускай работы за граніцай». Так, у кастрычніку 1924 г. падчас чарговага наведвання Прагі Б. Тарашкевіч у сустрэчах з пражскімі беларусамі даводзіў, што «для вядзення беларускай работы за мяжой віленскія беларусы ўпаўнаважылі на Чэхію гр. Я. Станкевіча, а на Літву В. Ластоўскага і К. Душэўскага, аж да часу, калі будзе скліканы за граніцай з'езд і ўстаноўлены моцны заграні́чны цэнтр» [8, с. 1544]. Віленчукі меркавалі склікаць такі з'езд каля новага 1925 г. у Чэхаславакіі. Што да адносінаў да эміграцыйнага ўрада БНР, то Б. Тарашкевіч асудзіў крытыку групай П. Крачэўскага дзейнасці В. Ластоўскага ў «Камітэце прыгнечаных Польшчай нацый» (падаў мемарандум ад імя беларускага насельніцтва ІІ Рэчы Паспалітай). Такім чынам, асноўнымі канкурэнтамі, зацікаўленымі ў кіраўніцтве беларускай Прагай, былі, з аднаго боку, эміграцыйны ўрад БНР, з другога — віленскія беларусы і ковенская група В. Ластоўскага.

Але прыкладна з першай паловы 1925 г. на ўнутрыпалітычнае жыццё беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі павялічвае свае ўплывы трэці гулец — Савецкая Беларусь. У асяроддзі пражскіх беларусаў набірае папулярнасць ідэя па разуменні Мінска як цэнтра па аб'яднанні беларускіх зямель. Гэтаму паспрыялі поспехі нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР (палітыка беларусізацыі, вяртанне ў склад БССР часткі ўсходніх беларускіх этнічных тэрыторый). З іншага боку, крызіс палітычных структур БНР, адкіданне ковенскай Літвой «беларускай карты» пасля прызнання Канферэнцыяй паслоў усходніх граніц Польшчы ў сакавіку 1923 г. (азначала палітычную смерць рады і ўрада БНР), расчараванасць у магчымасці атрымання нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў складзе Польшчы, павелічэнне прыхільнасці значнай часткі нацыянальнага актыву Заходняй Беларусі ў бок савецкага Мінска (уяўленні пра БССР як пра асноўнага саюзніка ў барацьбе за правы беларускай меншасці), стварэнне БСРГ таксама сталі значнымі фактарамі, якія прывялі да ідэалагічнай пераарыентацыі беларускай дыяспары ў

Чэхаславакіі. Да таго ж важнымі падзеямі, якія дадалі вагі папулярнасці прасавецкай арыентацыі, былі ліпеньская амністыя 1923 г. удзельнікам антысавецкіх нацыянальных аб'яднанняў і фармаванняў у БССР, а таксама самароспуск наймацнейшага палітычнага апанента бальшавікоў БПС-Р у чэрвені 1924 г. Пры разглядзе пытання аб папулярызацыі ідэі савецкай дзяржаўнасці ў асяроддзі беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі неабходна ўлічваць і працу кіраўніцтва БССР па «развіцці беларускага руху савецкай арыентацыі» [12, с. 137].

**Прасавецкія арганізацыі беларускай моладзі. Уздзеянне кастрычніцкіх падзей 1925 г. у Берліне на беларускую дыяспару ў Чэхаславакіі.** Падчас правядзення беларускай студэнцкай канферэнцыі па стварэнні цэнтральнай студэнцкай арганізацыі ў жніўні 1924 г. прасавецкі настроеныя студэнты не пагадзіліся з апалітычным характарам новага аб'яднання, а таму не ўвайшлі ў склад АБСА і пачалі працу па заснаванні сваіх альтэрнатыўных арганізацый. Першапачаткова былі створаны тры гурткі па вывучэнні праблем марксізму, якія ўзначальвалі беларускія студэнты П. Цветкаў, Я. Бабровіч, М. Верамей [21, с. 94—95]. Усёй арганізацыйнай працай кіравала існаваўшая з 1923 г. Марксісцкая група, галоўнай задачай якой было стварэнне і афіцыйнае зацвярджэнне, падобнага да ўжо дзеючых Саюзаў студэнтаў-грамадзян РСФСР і УССР, беларускага Саюза студэнтаў-грамадзян БССР. Разам з тым пад ідэалагічным кантролем Марксісцкай групы знаходзілася культурна-асветніцкая арганізацыя «Грамада», якая праводзіла працу «шляхам чытання рэфератаў на сацыяльныя, эканамічныя і іншыя тэмы і правядзення курсаў» [27, с. 30]. На жаль, нам не давялося знайсці інфармацыю наконт дакладнай даты стварэння гэтай арганізацыі і выявіць асоб, якія прычыніліся да яе заснавання. Актыўную дзейнасць «Грамада» пачала праводзіць з восені 1925 г. Магчыма, што яна была створана на базе трох гурткоў па вывучэнні марксізму. Акрамя таго, верагоднай уяўляецца версія і аб заснаванні «Грамады» большасцю сяброў суполкі «Незалежнасць» (звесткі пра якую таксама фрагментарныя). Тым не менш, па даных часопіса «Прамень» у траўні 1926 г. у шэрагах «Грамады» было згуртавана каля 30 беларускіх студэнтаў [27, с. 31].

Справа з зацвярджэннем Саюза студэнтаў-грамадзян БССР была распачата ў красавіку 1925 г. і толькі 23 чэрвеня 1926 г. МУС ЧСР узяло пад увагу стварэнне беларускага прасавецкага аб'яднання. Згодна са сваім статутам Саюз з'яўляўся апалітычнай арганізацыяй [1]. Галоўнай мэтай Саюза студэнтаў-грамадзян БССР з'яўлялася «дапамога маладым людзям пасля сканчэння вучобы праз прадстаўніцтва СССР атрымаць савецкае грамадзянства і дазвол на ўезд у БССР» [21, с. 92]. У часопісе «Прамень» адзначаецца, што Саюз студэнтаў-грамадзян БССР пачаў сваю працу ў траўні 1925 г. [27, с. 30]. Такім чынам, атрымліваецца, што да афіцыйнага зацвярджэння даная арганізацыя на працягу года праводзіла актыўную дзейнасць.

Паводле інфармацыі II аддзела польскага Генеральнага штаба ў красавіку 1925 г. у Празе адбылася 2-я беларуская палітычная нарада, у ліку дэлегатаў якой былі А. Цвікевіч, П. Крачэўскі, Б. Тарашкевіч, а ад ЦК КП(б)Б — У. Ігнатоўскі, А. Смоліч і Бекер [16, с. 224—225]. Нарада абвясціла курс на стварэнне агульнабеларускага фронту «под красным знаменем III Интернационала», што мела на ўвазе ліквідацыю ўрада БНР [24, с. 208]. Менавіта пасля гэтай «нарады» ў Празе і распачалася праца па стварэнні Саюза студэнтаў-грамадзян БССР. На далейшую актывізацыю дзейнасці прасавецкай групы паўплывала прыняцце ў жніўні 1925 г. пастановы ЦК КП(б)Б аб скліканні Берлінскай канферэнцыі [14, с. 172]. У межах падрыхтоўчай працы да канферэнцыі ў кастрычніку 1925 г. Прагу наведалі З. Жылуновіч, Я. Купала, М. Чарот. Мэтай прыезду дэлегацыі з БССР былі «наладжванне сувязі з прадстаўнікамі беларускай грамадскасці, якія цікавяцца культурнай працай савецкай Беларусі», інфармаванне аб поспехах нацыянальнага будаўніцтва ў БССР, заахвочванне вяртання інтэлігенцыі на Бацькаўшчыну [14, с. 171]. Паводле ўспамінаў актывіста прасавецкай групы студэнтаў Ю. Мухі, былі праведзены тры сустрэчы прадстаўнікоў савецкай дэлегацыі з групай П. Крачэўскага. Падчас апошняй сустрэчы з З. Жылуновічам А. Цвікевіч, Л. Заяц, У. Пракулевіч прама заявілі, што не супраць адмовіцца ад свайго мінулага, калі ім будзе прадастаў-

лена права ўезду ў Савецкую Беларусь [21, с. 97]. Верагодна, што падчас знаходжання савецкай дэлегацыі ў Празе былі выдаткаваны сродкі на падрыхтоўку часопіса прасавецкай моладзі «Прамень», першы нумар якога пабачыў свет у траўні 1926 г. У кастрычніку 1925 г. быў адчынены Клуб-чытальня беларускага паступовага студэнцтва ў Празе, дзе можна было знайсці беларускую прэсу з Латвіі, Савецкай Беларусі, а таксама пакарыстацца добра падабранай бібліятэкай. У снежні 1925 г. было заснавана пражскае аддзяленне аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк», мэтай якога з'яўлялася «азнаямленне чэшскага грамадзянства з дасягненнямі беларускай работніцка-сялянскай культуры і наадварот» [27 с. 31]. Усё гэта значна павысіла аўтарытэт і моц прасавецкіх аб'яднанняў беларускай моладзі.

Неадназначна беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі паставілася да вынікаў Берлінскай канферэнцыі. Трэба адзначыць, што ў Берліне прысутнічалі 5 дэлегатаў ад беларускай калоніі ў Чэхаславакіі, а ініцыятыўную групу па падрыхтоўцы канферэнцыі ўзначальваў старшыня Беларускай Рады ў Празе Л. Заяц [10, арк. 24 адв.]. Частка пражскіх дэлегатаў падтрымала пазіцыю А. Цвікевіча, а астатнія выступілі катэгарычна супраць спынення дзейнасці ўрада БНР. Так, прадстаўнікі беларускага студэнцтва (дэлегаты АБСА) дэманстратыўна пакінулі «нараду», пасля чаго на агульным сходзе АБСА прынялі адпаведную рэзалюцыю, у якой «была зганблена палітычная спекуляцыя “бывшых людей”» [18, с. 23].

Найбольшы рэзананс берлінскія падзеі выклікалі на агульным гадавым сходзе Беларускай Рады ў Празе, які адбыўся 12 снежня 1925 г. Пасля заслухоўвання справаздачы аб дзейнасці Рады за мінулы год слова ўзяў В. Грышкевіч, які асудзіў дзейнасць трох членаў арганізацыі (Л. Зайца, У. Пракулевіча і Я. Дыліса) на Берлінскай канферэнцыі, прапанаваўшы прыняць рэзалюцыю аб іх выключэнні са складу Беларускай Рады. У. Жылка выступіў супраць вынясення такой рэзалюцыі. Далей слова было дадзена У. Пракулевічу, які патлумачыў, што іх з Л. Зайцам выступ у Берліне быў зроблены для кансалідацыі беларускай інтэлігенцыі і наладжвання кантактаў з інтэлегенцыяй на Бацькаўшчыне. Пасля з вельмі жорсткай крытыкай у адрас групы Л. Зайца выказаўся В. Захарка, назваўшы іх «здраднікамі народа». Большасць прысутных не пажадала выслухоўваць адказу «абвінавачаных». Па выніках галасавання (10 супраць 7) Л. Заяц, У. Пракулевіч і Я. Дыліс былі выключаны з арганізацыі [5]. У новы прэзідыум Беларускай Рады былі выбраны В. Захарка (старшыня), М. Вяршынін, В. Лаўскі, В. Грышкевіч, М. Каберац [2].

Такім чынам, пасля Берлінскай канферэнцыі абазначыўся выразны ідэалагічны падзел сярод беларускай дыяспары. На адным флангу палітычнага жыцця знаходзіліся Беларуская Рада ў Празе, АБСА, БСС у Празе, Крывіцкае (Беларускае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны (апалітычная культурна-асветніцкая арганізацыя, створаная для канкуравання з прасавецкімі аб'яднаннямі ў траўні 1925 г.), Замежнае бюро ЦК БПС-Р. На іншым — «Грамада», Саюз студэнтаў-грамадзян БССР, пражскі «Маладняк». Прычым адносіны паміж гэтымі двума полюсамі дыяспары былі вельмі напружанымі, характарызаваліся ўзаемнай крытыкай, у кожнага з іх была свая ўласная Беларусь, адрознае бачанне шляхоў і метадаў змагання за свае ідэалы. Акрамя таго, па-за так званымі «беларускімі спрэчкамі» знаходзілася Таварыства студэнтаў маларосаў і беларусаў «Адзінства рускай культуры» (заснавана ў лістападзе 1924 г.), якое адмаўляла «сепаратысцкія памкненні» украінцаў і беларусаў па стварэнні ўласнай дзяржавы і прытрымлівалася ідэалогіі заходнерусізму.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Archiv hlavního města Prahy (далей — AhlmP). Fond Spolkový katastr. SK X/345.
2. AhlmP. Fond Spolkový katastr. SK XXII/1166.
3. Archiv ministerstva zahraničních věcí. Fond (2. Sekce politická). Karton 390.
4. Ignacy Dworczanin: białoruski polityk i uczony / A. Barszczewski, A. Bergman, J. Tomaszewski. Warszawa : Wydawnictwo Uniwersytetu Warszawskiego, 1990. 101 s.

5. Národní archiv České Republiky (далей — NAČR). Fond 207 (Zemský úřad Praha — Prezidium zemského úřadu v Praze). Karton 400—1.

6. NAČR. Fond 908 (Ministerstvo zahraničních věcí — Ruská pomocná akce). Karton 306.

7. NAČR. Fond 908 (Ministerstvo zahraničních věcí — Ruská pomocná akce). Karton 335.

8. Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / уклад., падрыхт. тэксту, уступ. арт., камент., пер., паказ. С. Шупы. Нью-Ёрк ; Вільня ; Менск ; Прага : Бел. ін-т навукі і мастацтва : Тав-ва бел. Пісьменства : «Наша ніва», 1998. Т. 1. Кн. 2. 1721 с.

9. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей — БДАМЛІМ). Ф. 3 (Матэрыялы з Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні). В. 1. Спр. 181 — Дакументы канферэнцыі Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый Заходняй Беларусі і эміграцыі ў г. Прага, 1924 г.

10. БДАМЛІМ. Ф. 3. В. 1. Спр. 184 — Перапіска АБСА з установамі па арганізацыйных пытаннях, распіскі за 1924—1927 гг. Т. 1.

11. Беларусы ў Празе Чэшскай // Крыніца. Вільня. 1925. № 28. С. 7.

12. Гісторыя Беларусі : у 6 т. Т. 5: Беларусь у 1917—1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 2007. 613 с.

13. Да ўсіх беларускіх студэнцкіх арганізацый // Перавясла. Прага. 1923. № 1. С. 62—63.

14. Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии, 1918—1945: сб. документов: в 2 ч. / редкол.: Р. П. Платонов [и др.]. Минск : Беларусь, 1990. Ч. 1: 1918—1948. 358 с.

15. *І. Н.* Аб'яднаннне беларускага паступовага студэнцтва / І. Н. // Перавясла. Прага. 1923. № 1. С. 15—18.

16. Кароткі нарыс беларускага пытання / рэдактары, аўтары прадмовы: А. Пашкевіч, А. Вашкевіч, А. Чарнякевіч; пераклад, каментарый: А. Вашкевіч, А. Пашкевіч. Мінск : І. П. Логвінаў, 2009. 395 с.

17. *Лаўскі, В.* Беларускі Сакол, яго мэты і арганізацыя / В. Лаўскі // Студэнцкая думка. Вільня. 1924. № 1. С. 34—37.

18. *Лаўскі, В.* З жыцця беларускага студэнцтва на чужыне / В. Лаўскі // Студэнцкая думка. Вільня. 1928. № 1. С. 21—24.

19. Ліставанне Я. Станкевіча да В. Ластоўскага з Прагі-Чэскае // Спадчына. Мінск. 2001. № 3. С. 115—166.

20. Лісты Ул. Жылкі да А. Луцкевіча / публ. і камент. А. Сідарэвіча // Шляхам гадоў: гісторыка-літаратурны зборнік / уклад. Я. Янушевіч. Мінск : Маст. літ-ра, 1994. С. 16—51.

21. *Муха-Мухновский, Г.* Пути-дороги / Г. Муха-Мухновский. Минск : Беларусь, 1973. 167 с.

22. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ). Ф. 325 (Рада Народных Міністраў БНР). Воп. 1. Спр. 56 — Дакументы аб стварэнні і дзейнасці БПС-Р і яе груп за мяжой (рэзалюцыі, дэкларацыі, адозвы, звароты, заклікі), 1922—1924 гг.

23. НАРБ. Ф. 571 (Беларуская Рада ў Празе). Воп. 1. Спр. 5 — Абвестка аб рэгістрацыі беларусаў у Чэхаславакіі і пратакол рэвізійнай камісіі Беларускай Рады ў Празе. 1924, 1929 гг.

24. *Снапкоўскі, У.* Эміграцыя. Фарміраванне і дзейнасць арганізацый беларускай эміграцыі. Сацыяльна-палітычныя плыні (1918—1939 гг.) / У. Снапкоўскі // Полымя. Мінск. 1995. № 11. С. 196—219.

25. Хроніка // Беларускі студэнт. Прага. 1923. № 4—5. С. 15—16.

26. Хроніка // Перавясла. Прага. 1923. № 1. С. 60—64.

27. Эміграцыя // Прамень. Прага. 1926. № 1. С. 30—32.

## РЕЗЮМЕ

В статье рассмотрена общественно-политическая жизнь белорусской диаспоры в период с ноября 1923 г. по декабрь 1925 г. Показана белорусская политическая палитра в Праге, попытки объединения белорусского студенчества, обучающегося в Чехословакии. Обоснованы принципы идеологического раздела белорусской диаспоры к концу 1925 г.

## SUMMARY

The article discusses the social and political life of the Belarusian community in the period from November 1923 to December 1925. It is shown that the Belarusian political landscape in Prague, attempts to unite the Belarusian students studying in Czechoslovakia. Justified by the principles of Belarusian Diaspora ideological divide by tram in 1925.

Статья поступила в редакцию 25 апреля 2011 г.